Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 15 330.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-24-41

# НАВІНЫ



Аўторак, 31 сакавіка 1998 г. | № 32 | Кошт свабодны

**СВАБОДА**
Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Вадзім Кабанчук выйшаў на волю

**Актывіст Маладога Фронту 23-гадовы Вадзім Кабанчук у мінулую пятніцу быў вызвалены з-пад варты непасрэдна ў зале суда.**

Калегія Мінскага гарадскога суда на чале з суддзём Анатолем Сушко прызнала Кабанчука вінаватым, але пакарала яго ўмоўным трохгадовым зняволеннем, улічваючы *«станоўчыя характарыстыкі і частковае прызнанне віны»*.

Малады чалавек асуджаны за ўдар, нанесены міліцэйскаму відэааператару падчас несанкцыянаванага шэсця 10 сакавіка мінулага года ды аказанне супраціўлення міліцыі пры разгоне дэманстрацыі 23 сакавіка. Цяпер на працягу двух гадоў Вадзім Кабанчук будзе пад пільным наглядам міліцыі. Калі за гэты тэрмін ён зробіць хаця б адміністратыўнае парушэнне, яго чакае тры гады турмы.

За сваё вызваленне Кабанчук дзякуе сябрам з Маладога Фронту, усім актывістам дэмакратычнага руху ў Беларусі і тым, хто праявіў з ім салідарнасць у свеце. Былы вязень упэўнены, што калі б не гэтая салідарнасць, то ён бы *«без варыянтаў паехаў з мінскага ізалятара куды-небудзь у калонію»*. Пэўную ролю, на думку Кабанчука, адыграў і факт прысутнасці ў Мінску місіі АБСЕ, што *«прымушае ўлады думаць усё ж аб наступствах сваіх крокаў»*. Вадзім не збіраецца адмаўляцца ад палітычнай дзейнасці: *«Палітыкай я буду займацца ў любым выпадку,* — кажа ён. — *Пасля ўсяго, што адбылося ў Беларусі, проста немагчыма не заступацца за людзей, чые правы пастаянна парушаюцца»*. Першыя гадзіны пасля вызвалення Вадзім Кабанчук правёў у штаб-кватэры БНФ.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Газавыя даўгі растуць

**Сёння запазычанасць Беларусі за расійскі газ у параўнанні з пачаткам года ўзрасла амаль у два разы і склала 181,1 млн. доляраў.**

Пытанне запазычанасці за энерганосьбіты абмяркоўвалася на мінулым тыдні на паседжанні Савета міністраў Беларусі. Павелічэнне доўгу ўжо выклікала скарачэнне паставак газу на 30%. Калі і далей Беларусь не зможа своечасова — прычым грашыма, а не таварамі — аплачваць пастаўкі газу, магчымыя далейшыя абмежаванні. Калі кіраўнікі прадпрыемстваў-даўжнікоў не забяспечаць аплату да сярэдзіны красавіка, то ўрад плануе прымаць жорсткія санкцыі — ад звальнення да прыцягнення да крымінальнай адказнасці. Члены ўрада выказалі намер зачыніць некаторыя прадпрыемствы, якія не аплачваюць газавыя пастаўкі.

**Алесь САДОЎСКІ**

СВЯТЫ

## На Вялікдзень будзем працаваць

**На мінулым тыдні ў афіцыйным друку з'явіўся ўказ прэзідэнта аб дзяржаўных святах і святочных днях. Некаторыя святочныя дні цяпер зноў будуць працоўнымі.**

Нагадаем, што пасля абвяшчэння незалежнасці Беларусі ў 1991 годзе Вярхоўны Савет пад кіраўніцтвам Станіслава Шушкевіча вызначыў 11 святочных (нерабочых) дзён. У 1995 годзе ў гэты спіс трапіла яшчэ і 7 лістапада — «дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі». Гэта было першае свята, якое Рыгоравіч разам з камуністычнай большасцю парламента «вярнуў» народу.

І вось цяпер, каб не падрываць асновы эканомікі і павялічыць валавы прадукт, прэзідэнт вырашыў скараціць колькасць непрацоўных дзён. Праўда, 7-е лістапада скарачэнне не закранула. Пацярпелі чатыры іншыя святы: Дзень Канстытуцыі, каталіцкі і праваслаўны Вялікадні, а таксама восеньскія Дзяды — гэтыя дні, якія на працягу апошніх сямі гадоў былі выхаднымі, цяпер зноў будуць працоўнымі.

Няўжо мітрапаліт Філарэт і кардынал Свёнтак рэкамендавалі прэзідэнту вярнуць гэтыя рэлігійныя святы да ліку працоўных? Вернікі лічаць, што для святкавання Вялікадня неабходна як мінімум тры дні. Патрэбна прыгадаць і пастанову Савета міністраў ад 1992 года пра парадак вызначэння нерабочых дзён для веруючых нехрысціянскіх рэлігіяў (падпісаны гэты дакумент тагачасным віцэ-прэм'ерам Міхаілам Мясніковічам). У пастанове гаворыцца, што веруючыя мусульманскай і іудзейскай рэлігіяў па дамоўленасці са сваёй адміністрацыяй могуць не працаваць у дні сваіх святаў. Па іудзейскаму календару да іх адносяцца першы і апошні дні Пэсаху, Рош-Ашана і Йом-Кіпур. Мусульмане могуць не працаваць таксама чатыры дні ў год (Рамазан, Ураза-Байрам, Курбан-Байрам і Маўлід). Як цяпер будзе: улады скароцяць колькасць святочных дзён гэтых канфесіяў? Атрымаць тлумачэнні ва ўрадавай прэс-службе і ў адміністрацыі не ўдалося па той прычыне, што «ніхто нічога не ведае, акрамя прэзідэнта».



*Прэзідэнт Лукашэнка ўстанавіў новае дзяржаўнае свята — дзень герба і сцяга. Ён лічыць, што гэтыя сімвалы, вернутыя з савецкіх часоў, аказалі «істотны ўплыў на развіццё дзяржавы і грамадства».*

Лукашэнка прызначыў таксама вялікую колькасць усялякіх святочных дзён, а ў некаторых памяняў даты згодна са сваім палітычным курсам. Прэзідэнт прапануе ў сваім календары святкаваць на рабочых месцах дзень яднання народаў Беларусі і Расіі. Гэтая дата ўстаноўленая ў сувязі з утварэннем міфічнага саюза 2 красавіка 1996 года. Адсутнасць гістарычных нацыянальных традыцыяў стала падставай для ўзнікнення Дня герба і сцяга (чамусьці прыпадае на другую нядзелю траўня). Дзень Незалежнасці перанесены на 3 ліпеня. Папярэднім прэзідэнцкім дэкрэтам рэкамендуецца праводзіць яго «як усенароднае свята ў абстаноўцы высокай урачыстасці і патрыятычнага ўздыму». Такім чынам, прэзідэнт не толькі ўстанаўлівае, калі святкаваць, але і «з якім уздымам».

Самая большая частка прэзідэнцкага ўказа датычыць прафесійных святаў. Некаторыя з іх напрамую перайшлі сюды з савецкага календара. Напрыклад, Дзень хіміка прызначаны, як і ў Савецкім Саюзе, на апошнюю нядзелю траўня. Аднак для вызначанай Лукашэнкам эпохі «рынкавага сацыялізму» ўведзены Дзень банкаўскага работніка. Як тлумачыць указ, прафесійнае свята можа ўстанаўлівацца «з прычыны асаблівай значнасці для эканомікі». Улічваючы апошнія падзеі ў банкаўскай сферы, свята можна было б прызначыць на «чорны аўторак сакавіка».

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**



## Вакол «святочнага ўказа»

**Мы вырашылі пацікавіцца, што думаюць вядомыя ў краіне людзі і простая публіка наконт скасавання прэзідэнцкім указам чатырох выхадных дзён.**

**Станіслаў Шушкевіч**, які ўзначальваў Вярхоўны Савет у той час, калі хрысціянскія святы былі зацверджаныя ў якасці нерабочых дзён, лічыць, што ўстаноўлены прэзідэнтам новы святочны каляндар абсалютна адпавядае адукацыйнаму ўзроўню Лукашэнкі. *«Ад такога прэзідэнта нельга чакаць павагі да рэлігійных і нацыянальных пачуццяў людзей,* — гаворыць Шушкевіч. — *Гэтым крокам Лукашэнка яшчэ раз хацеў пашкодзіць апазіцыі, але нашкодзіў праваслаўным вернікам. Справа ў тым, што для каталікоў важнейшым святам з'яўляецца Божае нараджэнне, а для праваслаўных — Вялікдзень. І вось цяпер галоўнае праваслаўнае свята прэзідэнт пазбавіў статусу нерабочага дня»*.

А што думаюць на гэты конт у ведамстве **мітрапаліта Філарэта**. *«Прэзідэнцкага ўказа я не бачыў і таму нічога каменціраваць не збіраюся»,* — заявіў нам учора сакратар мінскага епархіяльнага ўпраўлення айцец Іаан Хама. *«І наогул,* — сказаў ён, — *не звaніце сюды больш, нам раней СВАБОДА нервы трапала, а цяпер НАВІНЫ. Мне вам больш няма чаго сказаць»*. Тое, што праваслаўным вернікам, якіх дарэчы немала сярод нашых чытачоў, хацелася пачуць думку кіраўніцтва сваёй царквы адносна прэзідэнцкіх новаўвядзенняў, шаноўнага айца, відаць, не хвалюе. Вось такі своеасаблівы клопат аб сваёй пастве праяўляе афіцыйны прадстаўнік праваслаўнай царквы.

**Кардынал Казімір Свёнтак** сказаў, што нічога не ведае пра новы ўказ Лукашэнкі, таму нам прыйшлося патлумачыць шаноўнаму арцыбіскупу сутнасць дакумента. Аднак кіраўнік каталіцкага касцёла ў Беларусі адмовіўся даваць свой каментар на гэтую тэму. *«Я не хачу каменціраваць указы прэзідэнта, тым больш, што ад маёй думкі нічога не залежыць»,* — сказаў кардынал.

Пробашч мінскага касцёла св.Роха ксёндз **Міхал Сапель** выказаў здзіўленне найперш тым фактам, што прэзідэнт выдаў гэты ўказ за два тыдні да Вялікадня. На думку святара, такія паводзіны ўладаў толькі абвастраюць супярэчнасці ў грамадстве. *«Навошта забіраць у людзей рэлігійныя святы? У сённяшняй сітуацыі, калі большасць беларускіх прадпрыемстваў стаіць ці працуе няпоўны тыдзень, некалькі дадатковых працоўных дзён нашую эканоміку не выратуюць»,* — лічыць кс.Сапель.

А вось што думаюць наконт скасавання святаў людзі на мінскіх вуліцах.

**Ганна Барвенава**, выкладчыца мінскай гімназіі № 20: «Я думаю, што Лукашэнку не ўдасца спыніць рэлігійнае адраджэнне сваімі ўказамі. Нават у савецкія часы людзі бралі на працы адгулы, каб на Дзяды пайсці на могілкі. Тое самае будзе паўтарацца і цяпер. Але я аптымістка і спадзяюся, што гэты адкат у савецкае мінулае ў Беларусі часовы».

**Анастасія Навахацкая**, хатняя гаспадыня: «Лукашэнка моцна памыліўся, скасаваўшы самыя народныя святы, людзі яго не зразумеюць. Напрыклад, у нашай сям'і Вялікдзень заўсёды стаяў вышэй за ўсе іншыя святы — і такіх сем'яў шмат».

Пенсіянерка **Любоў Канашонак** аб прэзідэнцкім указе яшчэ не чула. «Як гэта скасаваў Вялікдзень?! — абурана спытала жанчына. — Я ж за яго галасавала. Ведаеце, я нарадзілася і жыла ў Беластоку. Тады палякі не дазвалялі праваслаўным нармальна адзначаць свае святы. Выходзіць і цяпер, праз 60 гадоў, але ўжо тут у Беларусі, на нашай роднай зямлі Лукашэнка працягвае старую палітыку Пілсудскага».

**Уладзімір Пінчарка**, беспрацоўны: «Хрысціянскія святы нельга адмяняць, іх адзначаюць ва ўсім свеце. Я за тое, каб былі розныя святы — і для камуністаў, і для хрысціянаў».

**Аляксандр Яромін**, будаўнік: «Прэзідэнт зрабіў вялікую памылку. У народа і так мала радасцяў у гэтым жыцці, а тут яшчэ і святочныя дні забіраюць...»

**Іра**, студэнтка недзяржаўнага ВНУ: «Я думаю, што Лукашэнка не меў ніякага права прымаць такое рашэнне, не параіўшыся з народам, можа быць, трэба было правесці нейкі рэферэндум. Не выключана, што такім чынам прэзідэнт хоча змагацца з п'янствам, але выніку ад такой барацьбы не будзе. У п'яніцы і так кожны дзень — свята, а пацерпяць ад указа як заўсёды нармальныя людзі».

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Грамадзяне БНР

## *Адным з першых у сімвалічнае грамадзянства БНР уступіў народны пісьменнік Васіль Быкаў*

Ужо больш за 500 заяваў аб прыёме ў грамадзяне Беларускай Народнай Рэспублікі пададзена ва ўправу БНФ.

Як паведаміў НАВІНАМ сакратар управы Уладзімір Юхо, прыём заяваў пачаўся на мітынгу 22 сакавіка, але самым масавым днём стала мінулая пятніца, калі ў штабкватэры БНР былі наладжаны ўрачысты прыём заяваў. У той дзень Беларускай Народнай Рэспубліцы прысягнулі больш за 100 чалавек. Акрамя Васіля Быкава, гэта зрабілі вядомыя навукоўцы Анатоль Грыцкевіч, Мікола Крукоўскі, Іван Саверчанка, мастак Мікола Купава, паэт Славамір Адамовіч, палітыкі Лявон Баршчэўскі, Барыс Гюнтэр, Генадзь Быкаў, Станіслаў Гусак ды іншыя. «Высакароднай і вялікай» назваў ідэю грамадзянства БНР Васіль Быкаў. Ён падзяляе імкненне многіх суайчыннікаў далучыцца да ідэалаў Беларускай Народнай Рэспублікі, стварэнне якой 80 гадоў таму ўпершыню засведчыла ўсяму свету жаданне беларусаў мець сваю незалежную дэмакратычную дзяржаву. Аднак гэтая акцыя дасягне мэты толькі ў тым выпадку, калі яна «набудзе масавы характар, не скончыцца адным памяшканнем», адзначыў народны пісьменнік.

Як паведамілі арганізатары акцыі, распаўсюджваюцца спецыяльныя бланкі заяваў, але можна дасылаць і лісты ў адвольнай форме. Спісы будуць перададзеныя ва ўрад БНР, які дзейнічае ў Амерыцы.

Алесь ПАЎЛОВІЧ

# Дапамога журналістам ці орган цэнзуры?

**Пры ўрадзе створаны грамадскі савет па спрэчных пытаннях, якія ўзнікаюць у працэсе прымянення закона аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі.**

Савет з'яўляецца кансультацыйна-аналітычным органам і закліканы садзейнічаць дзяржаўным структурам у правільным прымяненні гэтага закона і больш поўнай рэалізацыі яго патрабаванняў у дачыненні да перыядычных друкаваных выданняў. Як паведаміла ўрадавая крыніца, савет мае права выносіць заключэнні аб наяўнасці ў матэрыялах, апублікаваных у перыядычных друкаваных выданнях, парушэнняў артыкула 5 закона аб друку — парушэнні менавіта гэтага артыкула могуць быць падставай для закрыцця сродку масавай інфармацыі. Савет таксама мае права ўносіць прапановы па ўдасканаленні заканадаўства аб друку.

Гэты савет створаны па ініцыятыве дзяржкамітэта па друку пры падтрымцы міністэрстваў працы і юстыцыі. У склад новага органа ўвайшлі ўсе галоўныя рэдактары рэспубліканскіх і абласных дзяржаўных газетаў, а таксама дырэктар Інстытута сацыялогіі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, акадэмік Яўген Бабосаў, дырэктар Інстытута літаратуры Акадэміі навук Уладзімір Гніламёдаў, старшыня Саюза журналістаў Беларусі Леанід Екель і шэраг іншых асобаў — усяго больш за 20 чалавек.

Пытанне аб уключэнні ў склад савета прадстаўнікоў незалежных СМІ, па словах той жа ўрадавай крыніцы, не разглядалася.

*БелаПАН*

# Куды ідуць заходнія грошы

**Сусветны банк накіраваў ураду Беларусі дакумент на выдзяленне авансу ў памеры 1 мільёна долараў для рэалізацыі праектаў па энергазберажэнні ва ўстановах сацыяльнай сферы.**

Аб гэтым паведаміў эканамічны саветнік Беларускага прадстаўніцтва банка Мікалай Лісай. Ён таксама адзначыў, што працягваецца рэалізацыя праекта рэфармавання лясной гаспадаркі з бюджэтам у 42 мільёны долараў. За апошнія гады Беларусі выдзелена некалькі грантаў — гэтыя грошы не трэба вяртаць. За сродкі Сусветнага банка фінансуюцца праграмы па вывядзенні з вытворчасці азонаразбуральных рэчываў — на 7,5 мільёна долараў, па стварэнні юрыдычнай базы рыначнай эканомікі — каля 0,5 мільёна долараў. На аснове гранта, выдзеленага ў снежні мінулага года, актыўна распрацоўваецца механізм сацыяльнай абароны найбольш слабых слаёў насельніцтва. За кошт гранта ў 600 тысячаў долараў, прадастаўленага ўрадам Японіі, эксперты прыступілі да распрацоўкі праекта па мадэрнізацыі сістэм водаачысткі ў Мінску і Гомелі. У будучыні пад такі праект магла б быць прадастаўлена пазыка ў памеры 20-25 мільёнаў.

*БелаПАН*



*На здымку: так выглядаюць збудаванні Наваполацкага аб'яднання «Нафтан».*

# Аўстрыйцы прыйдуць у Наваполацк

**Вырашаецца пытанне аб удзеле аўстрыйскіх інвестараў у рэканструкцыі наваполацкага вытворчага аб'яднання «Нафтан».**

Як паведамілі ў міністэрстве знешніх эканамічных сувязяў Беларусі, удзельнічаць у праекце збіраюцца банкі «Аўстрыя» і «Баваг». На працягу красавіка аўстрыйскі бок павінен падрыхтаваць дакументы, датычныя фінансавання праекта. Пасля гэтага будзе створаная рабочая група са спецыялістаў Беларусі і Аўстрыі, якія вызначаць пералік і тэрміны падрыхтоўкі ўсіх неабходных матэрыялаў. Каардынатарам па пытаннях фінансавання праекта рэканструкцыі ВА «Нафтан» з беларускага боку выступіць Белзнешэканамбанк.

*БелаПАН*

# Дэпутата шукае міліцыя

**Дэпутат Павел Знавец можа сесці на 15 сутак.**

Як сцвярджае суддзя Кастрычніцкага раённага суда Мінска Алег Лопух, Знавец пакараны за «праяву непавагі да суда». Маўляў, дэпутат Вярхоўнага Савета не прыходзіў на судовыя разбіральніцтвы, не пускаў да сябе судовага выканаўцу і не адчыніў дзверы міліцыянту, якога спецыяльна накіравалі, каб «прывесці грамадзяніна Знаўца ў суд». Рашэнне пакараць упартага дэпутата арыштам на 15 сутак суддзя Лопух прыняў яшчэ 4 сакавіка.

Павел Знавец у тэлефоннай размове запэўніў карэспандэнта НАВІНАЎ, што даведаўся аб гэтым толькі 26 сакавіка, а павесткі з суда «нават у руках не трымаў». Ён прызнае, што дагэтуль не выплаціў тры штрафы (1 мільён, 650 тысячаў і 13 мільёнаў рублёў), да якіх яго прысудзілі яшчэ ў мінулым і пазамінулым гадах. Дэпутат тлумачыць, што не згодны з тымі рашэннямі, і абскардзіў іх у пракуратуры горада, але яму дагэтуль не далі ніякага адказу. *«Пакуль мае скаргі не будуць разгледжаныя ў законным парадку, штрафаў плаціць не буду»,* — настойвае Павел Знавец. Ісці за краты на 15 сутак ён таксама не збіраецца.

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

# Беларускія татары выбіраюцца ў Меку

**Дэлегацыя татараў-мусульманаў Беларусі ўпершыню за апошнія дзесяць гадоў ажыццявіць хадж — паломніцтва ў свяшчэнныя гарады мусульманаў Меку і Мядзіну (Саудаўская Аравія).**

Як паведаміў старшыня мусульманскай абшчыны Мінска Ібрагім Канапацкі, хадж праведуць прэзідэнт беларускага аб'яднання татараў-мусульманаў «Аль-Кітаб» Абу-Бекір Шабановіч і старшыня мусульманскага рэлігійнага аб'яднання рэспублікі муфцій Ісмаіл Александровіч. Па словах І.Канапацкага, паломніцтва да святых месцаў будзе здзейснена ў першыя дзесяць дзён зульхіджа — «благаславеннага для ўсіх мусульманаў свету дванаццатага месяца па месячным календары», што адпавядае перыяду з 29 сакавіка па 7 красавіка сучаснага грыгарыянскага календара. Хадж завершыцца святам ахвяраапрынашэння Ід аль-Адха (па-татарску — Курбан-Байрам), які мусульмане Беларусі будуць адзначаць з 7 па 10 красавіка.

*БелаПАН*

# У Мінску будзе «Залаты воўк»

**Заканчваецца падрыхтоўка да міжнароднага фестывалю рэкламы «Залаты воўк», які пройдзе ў Мінску з 15 па 18 красавіка.**

Сярод арганізатараў фестывалю — рэкламнае агенцтва «Скай-груп», міністэрствы культуры, прадпрымальніцтва і інвестыцыяў, радыё «Бі-Эй», тэлекампанія «ФІТ» і шэраг іншых структураў. Як паведаміў прэзідэнт фестывалю Алег Чыжык, цікавасць да мерапрыемства вялікая: каля 50 чалавек штодзённа падаюць заяўкі на акрэдытацыю. Паводле папярэдняй інфармацыі, у фестывалі возьмуць удзел 15 рэкламных агенцтваў з Украіны, тры — з Польшчы, пяцьшэсць — з Расіі.

Асноўныя намінацыі фестывалю наступныя: лепшыя тэлевізійная, вонкавая і радыёрэклама; лепшыя рэкламная друкаваная прадукцыя; рэкламная фатаграфія года; рэкламнае агенцтва года; рэкламадаўца года; лепшы нерэалізаваны праект. У рамках фестывалю пройдуць навукова-практычныя семінары.

*БелаПАН*

# Мяжа без слупоў

**У Астравецкім раёне пачалося ўпарадкаванне лініі дзяржаўнай мяжы з Літвой.**

Гэтым займаюцца вайскоўцы-чыгуначнікі з Мінска. Магчыма, яны калі-небудзь паставяць і памежныя слупы.

Пакуль што яны ёсць толькі на пераходзе Каменны Лог Ашмянскага раёна. У цырымоніі закопвання гэтых слупоў бралі ўдзел беларускі і літоўскі міністры ўнутраных справаў. Гэта адбылося пасля скандалу вакол здымачнай групы Паўла Шарамета, якая каля Каменнага Логу зрабіла свой рэпартаж з мяжы.

Міхал КАЗЛОЎСКІ

# Літоўская імша ў Гродне

**У Гродне ўпершыню пачаліся набажэнствы на літоўскай мове.**

Імшу для літоўцаў у касцёле св.Брыгіты праводзіць сам гродзенскі біскуп Аляксандр Кашкевіч, які раней служыў у Вільні. Такія богаслужэнні будуць адбывацца два разы ў месяц па нядзелях.

С.А.

# Страчанае пакаленне

**З пачатку года ў Жлобінскім раёне падлеткавая злачыннасць узрасла ў чатыры разы.**

Спецыялісты звязваюць гэта перш за ўсё з ростам колькасці наркаманаў. Каб здабыць грошы на наркотыкі, моладзь ідзе на злачынствы. Росту злачыннасці, на думку экспертаў, садзейнічае і тое, што 85% жлобінскіх наркаманаў заражаныя ВІЧ-інфекцыяй і, па вялікім рахунку, ім няма чаго губляць. Пра вельмі нізкі ўзровень індывідуальнай гігіены сведчыць і тое, што летась сярод жлобінскіх падлеткаў былі зарэгістраваныя 196 выпадкаў захворванне на сіфіліс.

Н.Ш.

СУСЕДЗІ

# На што жыве Барыс Ельцын

**У 1997 годзе даход прэзідэнта Расіі Барыса Ельцына склаў 1.950.324,3 дэнамінаванага рубля — гэта прыкладна 325 тысячаў долараў.**



Як паведаміла прэс-служба кіраўніка расійскай дзяржавы, сума складаецца з заработнай платы, ганарараў за кнігу «Запіскі прэзідэнта» і працэнтаў ад укладаў у Ашчадным банку. З дэкларацыі, якую падаваў Ельцын у падатковыя органы, у ягонай маёмасці ніякіх істотных зменаў не адбылося. Такім чынам, у асабістым карыстанні сям'і Барыса і Наіны Ельцыных знаходзіцца кватэра плошчай 323,4 кв.м. Разам з прэзідэнтам і ягонай жонкай жыве таксама сям'я ягонай малодшай дачкі — усяго 6 чалавек. Б.Ельцыну на правах сумеснай маёмасці з жонкай належыць зямельны ўчастак у Маскоўскай вобласці плошчай 4 гектары. Б.Ельцын таксама мае аўтамабіль *BMW*, купленны ў 1995 г.

*Інтэрфакс*

# Камуністы ўсіх абагналі

**На выбарах у Вярхоўную Раду Украіны лідзіруе камуністычная партыя. Паводле папярэдніх звестак, КПУ атрымала каля 25% галасоў выбаршчыкаў.**

Украінцы прыйшлі на выбарчыя ўчасткі ў мінулую нядзелю, 29 сакавіка. У панядзелак раніцай старшыня Цэнтральнага выбарчага камітэта Украіны Міхаіл Рабец сказаў, што дакладных звестак аб выніках галасавання па партыйных спісах няма, але паведамленні рэгіянальных выбарчых камісіяў даюць падставы меркаваць, што камуністы сапраўды абагналі ўсіх сваіх канкурэнтаў, у некаторых усходніх абласцях іх рэйтынг дасягае нават 40%. Аднак на захадзе перавагу захавалі Народны Рух Украіны і Нацыянальны Фронт.

Нагадаем, што выбары ў парламент на Украіне праводзяцца па змешанай сістэме: палова дэпутатаў выбіраецца ў аднамандатных акругах, палова — па партыйных спісах. У вельмі вялікай колькасці акругаў перамаглі прадстаўнікі прадпрымальніцкіх колаў, што, на думку экспертаў, будзе процівагай камуністам.

Прэзідэнт Украіны Леанід Кучма лічыць, што выбраны 29 сакавіка парламент «не будзе прадстаўляць погляды ўсіх украінцаў». На думку кіраўніка дзяржавы, у парламент балатуецца вельмі многа партыяў, і пройдзе яшчэ шмат часу, пакуль яны дакладна вызначацца са свае палітычныя пазіцыі.

Выбары не прывядуць да змены знешнепалітычнага курса Украіны, падкрэсліў старшыня Вярхоўнай Рады, лідэр спісаў Сацыялістычнай і Сялянскай партыяў Аляксандр Мароз. На ягоную думку, парламент новага склікання будзе «больш левым», прычым сацыялісты і камуністы, хутчэй за ўсё, будуць ствараць адзін блок з сацыял-дэмакратамі.

*Інтэрфакс*

# Немцы адкрываюць Беларусь

**Берлінскае выдавецтва *Trescher* выпусціла першы ў Нямеччыне даведнік для турыстаў *«Адкрыццё Беларусі. Прырода і культура ад Брэста да Дняпра»*. Трохтысячны тыраж кнігі плануюць прадаць за два гады.**

Аўтар кнігі Эвелін Шэер цэлы год працавала над «Адкрыццём Беларусі». Кніга мае 261 старонку і каштуе амаль 27 нямецкіх марак — гэта сярэдняя цана для выданняў такога роду. Яна будзе карыснай як для турыста-індывідуала, вандроўнікаў-веласіпедыстаў, так і для экскурсійнай групы. Маршрут прапануецца па чатырох абласцях, акрамя Гомельскай і Магілёўскай, якія пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы: туды немцам лепш не ездзіць. Даведнік змяшчае шмат фотаздымкаў, неабходныя тэлефоны і адрасы, карты і планы гарадоў. Геаграфічныя назвы і вуліцы пададзеныя на беларускай мове з лацінскай транскрыпцыяй. Для зручнасці ёсць невялікі нямецка-беларуска-рускі размоўнік.

Аўтар запрашае ў Беларусь тых, каго не палохае адпачынак без камфорту. Для большасці заходніх турыстаў Беларусь застаецца незнаёмай, хоць апошнія палітычныя падзеі ў нашай краіне выклікаюць у іхняй прэсе вялікія загалоўкі. Як гаворыцца ва ўступным слове да кнігі, *«эканамічны крызіс у Беларусі абвастраецца і кладзецца цяжкім грузам на плечы народа»*, але тым не менш падарожжа ў Беларусь мае непаўторную экзотыку.

У раздзеле «Без хлеба стол — гэта толькі дошка» гаворыцца пра русіфікацыю беларускай кухні ў савецкія часы і распаўсюджанне савецкай культуры харчавання. Пра гасціннасць гаспадара сведчаць перапоўненыя гарэлкай шклянкі. На пачатку застолля тыя шклянкі павінны звінець і выпівацца да дна, інакш гаспадар можа пакрыўдзіцца. У якасці тыповага прыкладу аўтарка прыводзіць тост: *«100 кіламетраў не адлегласць, 100 гадоў не ўзрост, 100 грамаў не гарэлка»*. Застолле завяршаецца, калі заканчваецца алкаголь. *«Трэці тост п'ецца за жанчын і абавязкова за гаспадыню дома. Патрыярхат пачынаецца за сталом»*, — адзначае Э.Шэер.

Для немца падарожжа ў Беларусь звычайна пачынаецца з Брэста. Вось як успрымаецца еўрапейцам раніца ў гэтым горадзе: *«Рэдкіх людзей недружалюбна вітаюць сабакі. Ніякіх прадаўцоў газет, ніякіх кафэ, якія маглі б аблегчыць ранне. Толькі дворнікі, часцей пажылыя жанчыны, якія зарабляюць гэтым на хлеб у дадатак да мізэрнай пенсіі, разам з мётламі надаюць вуліцы нейкія колеры»*.

У Гродзенскай вобласці, паведамляе даведнік, *«людзі жывуць у дамах савецкага будстылю ці нізкіх драўляных хатах з перакошанымі платамі. Сабакі брэхам вітаюць вандроўнікаў, упартыя каровы загароджваюць дарогу. Трасучыя аўтобусы, больш зручныя павозкі, аўтамабілі і сельгасмашыны перасякаюць мясцовасць, якая мае гістарычнае значэнне і некранутую прыроду. У Гродне з двароў чуюцца самотныя песні і пахне бігасам — стравай з тушанай кіслай капусты»*.

Аўтарка даведніка нагадвае заходнім турыстам, якія спыняюцца ў Мінску, што ўсе іншаземцы паводле закона павінны зарэгістравацца ў АВІРы, гэта ўспрымаецца як «перажытак савецкай сістэмы». Гарадскі транспарт часта перапоўнены і не заўсёды надзейны, папярэджвае кніга. У таксістаў, як правіла, не працуе таксометр, і вадзіцель называе адвольныя цэны. Замежнаму кіроўцу няпроста зарыентавацца на мінскіх вуліцах, а той, хто ўпершыню выходзіць з цягніка на мінскім вакзале, будзе адчуваць, што трапіў у правінцыю: усё заблытана, людзі мкнуцца ў розных накірунках, пераходзячы проста праз рэйкі. Знайсці прыстойны гатэль нават у Мінску няпроста: цэны астранамічна высокія і не адпавядаюць сервісу. У правінцыйных гатэлях яшчэ горш: няветлівы персанал і брудныя пакоі, няма гарачай вады. У рэстаранах практычна не знойдзеш вегетарыянскіх страваў, нідзе няма тэлефонных даведнікаў, а таксама інфармацыі для турыстаў.



У кнізе «Адкрыццё Беларусі» (вокладка — на здымку справа) сцвярджаецца, што ўсё насельніцтва дзеліцца на дзве вялікія групы: тых, хто курыць самакруткі, і тых, хто арыентуецца на будучыню і аддае перавагу цыгарэтам Philip Morris.




У кнізе «Адкрыццё Беларусі» рэкамендуецца набыць план Мінска, які выпусціла нямецкае выдавецтва *RV-Verlag*, таму што беларускія карты і планы гарадоў не дасягаюць еўрапейскіх стандартаў. Але гэта дробязь: кожны еўрапеец адчуе дэфіцыт грамадскіх туалетаў. Шчасце, калі турыст знаходзіцца ў гатэлі, прыстойным рэстаране, вакзале або ў цэнтры горада, інакш — бяда.

Падарожнічаць па Беларусі зручней на цягніку, але білеты лепш купіць загадзя. Доўгія чэргі каля касы, недружалюбныя касіркі могуць стварыць праблему з білетам. Даведнік рэкамендуе абавязкова ўзяць з сабой туалетную паперу і правіянт. Таму, хто вандруе на ўласным аўтамабілі, лепш не рабіць начных паездак з-за дрэннага асвятлення дарогаў, на якіх могуць сустрэцца п'яныя вадзіцелі. Нягледзячы на даволі развітую сетку аўтазаправак, ёсць сэнс узяць з сабой каністру з бензінам: можа быць, што патрэбнага паліва на станцыі няма.

*«Людзі ў Беларусі вельмі гасцінныя*, — гаворыцца ў кнізе. — *Для іх у падарунак можна прывезці каву, гарбату альбо какаву, дзецям — цукеркі»*. Беларусам прыемна атрымаць часопіс модаў альбо каталог, паштоўкі, касметыку ўсіх гатункаў, медыкаменты, якія цяжка купіць у аптэцы, аднаразовыя шпрыцы і пластыры, перакананая аўтарка. Калі ёсць сябры, ім можна прывезці ў прэзент джынсы, калготкі, абутак, бялізну або шкарпэткі. *«Гэтыя рэчы не з'яўляюцца дэфіцытам, але кошты так выраслі, што для многіх людзей моднае адзенне застаецца марай»*, — піша Э.Шэер.

«Адкрыццё Беларусі» — гэта захапляльнае падарожжа па гісторыі і сучаснасці нашай краіны. Тут жа змяшчаюцца ўрыўкі з прозы і паэзіі нашых пісьменнікаў, якія даволі добра прэзентуюць літаратуру.

Падобнага дапаможніка для турыстаў яшчэ не было. Як паведамілі мне ў міністэрстве спорту і турызму, на выпуск беларускай версіі кнігі «не хапае грошай», хоць чыноўнікі прызнаюць, што такое выданне вельмі патрэбнае. Даведнікам «Адкрыццё Беларусі» зацікавіліся беларускія турыстычныя фірмы, гандлёвая палата і прадстаўніцтвы нямецкіх фірмаў у нашай краіне. Амбасада ФРГ у Мінску замовіла 50 асобнікаў.

Акрамя гэтага даведніка, турысту, які збіраецца ў Беларусь, Эвелін Шэер рэкамендуе ўзяць з сабой крышку гумару — каб пераадолець усялякія нязручнасці.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

ДАГЕРРОТИП

# Чистилище, из которого нет пути в рай

## О «чеченском фильме» Александра Невзорова

**Семен БУКЧИН**

Невзоров, этот *enfant terrible* российского телевидения, слишком надолго запропал в какую-то тень, чтобы наконец не заявить о себе соответственно громко и скандально. Теперь мы знаем, что время было потрачено не впустую. Хичкок репортерского телеэкрана, «разгребатель» постсоветских ужасов от «шестисотсекундных» сюжетов перешел к эпопее. Чечня — вот где было развернуться его таланту! Чечня ждала невзоровского пера, точнее невзоровской телекамеры, чтобы стать, наконец, тем полотном, где кровища, кости, черепа и шматки человеческих тел могли удовлетворить в достойном масштабе безумную страсть некрофила, возомнившего себя суперпатриотом России.

Плохо ли, хорошо ли, нравственно или аморально «Чистилище» Невзорова — суть не в этих возникших сразу же после показа фильма по ОРТ спорах. Для меня главнейшее в том, что Невзоров и чеченская трагедия — понятия полярные по своей сути. Как полярны Невзоров и трагедия Вильнюсского телецентра, которую он смаковал в 1991 году. Невзоровские «Наши» перекочевали из Вильнюса в чеченское «Чистилище». А в том, что это все те же «Наши», сомневаться не приходится. Они, как и там, под Вильнюсской телебашней семь лет назад, немногословно мужественны в своей защите неизвестно чего и также трагичны в той бестолковости и беспомощности, в которую их бросило высшее начальство России.

Так вот об авторской позиции... Утверждаю, что, несмотря на все обилие огня, трупов и руин, несмотря на все это «как оно на самом деле было», Невзоров лжет. Лжет, прикрывшись документальными и игровыми кадрами. Цинизм достигает вершины, когда российского танкиста, «русского мальчика», ужасные «чечены» распинают на кресте. Впрочем, скоро и они, эти «изверги поневоле», гибнут от автоматных очередей осатаневших российских «мстителей». Вот за этим крестом с распятым «русским мальчиком» и выбрал себе позицию холодно-расчетливый г-н Невзоров. Он стоит в трагической позе, воздев руки к небу, и вопиет: *«Зачем эта бессмысленная бойня? Зачем они уничтожают друг друга? Как это ужасно!»*

Г-ну Невзорову кажется, что он достиг шекспировских высот. Что, взобравшись на монблан трупов, он может претендовать на высшую объективность. Что его, вещающего с горы черепов и костей, никто не сможет упрекнуть в пристрастности. Конечно, на сей раз риторика подана довольно искусно, она трагически молчалива, как танк, показательно утюжащий и впечатывающий в землю тела своих же бойцов.

Но эту риторику разоблачают как сама личность «хитроумного» создателя фильма, отлично знающего, «кому и зачем это нужно», так и его титры, в которых указано имя «спонсора» — Бориса Березовского. У меня нет желания демонизировать фигуру этого нувориша, из которого российская пресса усердно лепит образ олигарха. Нет желания рассуждать о его «нефтяных интересах» на Кавказе. Хочу подчеркнуть единственное: ответы на «шекспировские вопросы» давно известны. В кавказском сценарии роли прописаны достаточно четко. Нефтяные реки, несущие миллионы долларов, определяют и насыщают всю его образную систему. Об этом отлично осведомлен г-н Невзоров.

Невероятный цинизм ситуации заключается в том, что стыдящий, упрекающий и даже убивающий нас своим «Чистилищем» г-н Невзоров давно уже приник к одной из этих долларовых рек. Чеченская трагедия стала для создателя фильма источником не только материального, но прежде всего идеологического дохода, скорее даже идеологической поживы. «Высшая правда» о чеченской войне не в бесконечном наматывании на гусеницу танка человеческих останков. Это длящееся бесконечно наматывание и прокручивание — откровенная спекуляция на войне и ее жертвах, на чувствах зрителей.

Когда герой романа Ремарка «Время жить и время умирать» немец Гребер получает пулю от кого-то из им же пощаженных советских пленных, его смерть знаменует бессмысленность войны в самых что ни на есть трагических тонах, хотя нет вокруг рек крови и гор трупов. Впрочем, у меня нет желания затевать спор об эстетике, стилистике фильма. Выбор средств всегда за автором. Но не надо держать и зрителя за дурака, считая, что «ужасы» предельно натурализованной правды дают право на некую, чуть ли не сродни божественной, верховную позицию. Да, собственно, Невзорову и не нужна подлинная правда о чеченской трагедии. Нотация, прочитанная чеченским боевиком российскому танкисту (*«ты зачем пришел на мою землю?»*), — не более чем демонстрация некоего «равновесного» подхода.

Дымящаяся кровь, клочки человеческих тел, нагромождения обезображенных трупов — вот что должно волновать обоняние, вызывать блеск глаз. Так формируется поэтика «псов войны», этих увешанных оружием «сверхчеловеков», знающих только одну работу — убивать. Но, может быть, автор осуждает, показывая нам все это? Нет! — утверждаю я. Он любуется. Он наслаждается зрелищем танка, вминающего разбросанные вокруг и мертвые тела, и еще живых, но раненых солдат... Что ж, эта эстетика вполне соответствует давно известному нам нравственному уровню г-на Невзорова. В этом смысле «ястреб», всегда круживший в поисках падали, не подвел, остался верен себе.

Но и мы не забудем этого идейного «подвига» г-на Невзорова, создавшего фильм, вполне могущий стать катехизисом крепнущего российского фашизма. Кино, которое вполне можно показывать кандидатам в члены баркашовского «Русского национального единства». Своего рода кинобиблия, на которой можно клясться... А уж потом строчи из автомата, как говорил один литературный герой, «от живота веером». Ибо г-н Невзоров уже все грехи отпустил...

## Школьныя абеды растуць на градах

**У вясковых школах Клімавіцкага раёна Магілёўскай вобласці цяпер школьнікі самі забяспечваюць сябе ежай.**

На аднаго вучня з бюджэту выдаткоўваецца ўсяго 5.000 рублёў, чаго не хапае нават на кубачак гарбаты з коржыкам. Каб дзеці не галадавалі, за кожным вучнем замацавалі на прышкольным участку персанальную градку. На ёй вучань будзе вырошчваць самыя неабходныя «вітаміны» — цыбулю, моркву, капусту, памідоры і агуркі.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Беларуская моладзь едзе ў Францыю

**Вучаніца 11-га класа мінскай гімназіі № 20 Карыма Башэн і студэнт 3 курса Лінгвістычнага універсітэта Мікалай Шакел паедуць у Францыю на грошы французскіх падаткаплацельшчыкаў.**

Яны сталі пераможцамі фінальнай часткі конкурсу «Едзем у Францыю-98», які праводзіла французская амбасада. З 30 чэрвеня па 15 ліпеня ў Францыі шчаслівчыкі змогуць убачыць матчы чэмпіянату свету па футболе, наведаць Луўр і Версаль і ўзяць удзел у Нацыянальным святе Францыі 14 ліпеня на Елісейскіх Палях. Іх будуць вітаць і на афіцыйным узроўні — у міністэрстве замежных справаў Францыі.

Школьніца з Салігорска Любоў Русак і студэнт Брэсцкага політэхнічнага універсітэта Сяргей Дабышук, якія занялі ў конкурсе другое месца, атрымалі правa на лінгвістычную стажыроўку «Знаёмства з Францыяй» у ліпені 1998 года.

Перамагчы ў конкурсе было нялёгка: фінал складаўся з тураў на веданне Францыі як краіны і французскай мовы. Кандыдаты павінны былі паказаць сваё веданне граматыкі, лексікі, гісторыі, геаграфіі, сацыяльнага, палітычнага і эканамічнага жыцця Францыі, яе літаратуры і мастацтва, спорту. У фінале конкурсу ўдзельнічалі прадстаўнікі 42 навучальных установаў рэспублікі.

*БелаПАН*

## СНІД і наркотыкі ідуць разам

**На Гродзеншчыне пагаршаецца сітуацыя са СНІДам: у сакавіку выяўлены яшчэ два ВІЧ-інфіцыраваныя.**

Гэта наркаманы. Пасля ўспышкі ВІЧ-інфекцыі ў Светлагорску ў Гродзенскі цэнтр па прафілактыцы СНІДу ўсё часцей звяртаюцца людзі, якія хаця б аднойчы спрабавалі наркотыкі ў ін'екцыях. Адначасова спецыялісты цэнтра праводзяць працу і па выяўленні інфіцыраваных сярод тых, хто заразіўся смяротным вірусам полавым шляхам.

*БелаПАН*

## Даты і лёсы

### 31 сакавіка

**1732.** Нарадзіўся выбітны аўстрыйскі кампазітар, аўтар 104 сімфоній і 50 канцэртаў Франц Ёзэф Гайдн. Вядома, што Гайдн прадказаў вялікую будучыню юнаму Моцарту, але скептычна ацэньваў талент уласнага вучня — Бетховена.

**1903.** Нарадзіўся уніяцкі святар, вязень канцлагера Заксенхаўзен Міхась Маскалік. Пасля вайны ён узначаліў Беларускі камітэт перасяленцаў, які існаваў да 1952 г. З яго дапамогай многія тысячы беларусаў і украінцаў выехалі ў ЗША, Канаду ды іншыя замежскія краіны. У 1959 г. Маскалік абараніў доктарскую дысертацыю «Янка Купала — песняр беларускага народа».

**1950.** Нарвежскі падарожнік Тур Хеердал апублікаваў справаздачу пра экспедыцыю *Kon-Tiki*. Гэта быў проста плыт, падобны да тых, якімі карыстаюцца палінезійскія туземцы. Хеердал разам з невялікай камандай за 101 дзень паспяхова пераплыў акіян.

**1966.** З Байканура стартавала аўтаматычная станцыя «Луна-10», якая стала першым штучным спадарожнікам Месяца.

### 1 красавіка

Міжнародны Дзень дурняў.

**1875.** Лонданская *Times* апублікавала першы прагноз надвор'я. Спецыяльна да гэтага дня ў 1960 г. амерыканцы (яны таксама вельмі любяць абмяркоўваць сюрпрызы неба) прымеркавалі запуск першага метэаралагічнага спадарожніка.

**1933.** Гітлер заклікаў немцаў байкатаваць крамы, якія належалі габрэям.

### 2 красавіка

**742.** Нарадзіўся кароль франкаў Карл Вялікі, які ўпершыню пасля распаду Рымскай імперыі здолеў аб'яднаць Заходнюю Еўропу. У 800 г. ён атрымаў з рук Папы рымскага імператарскую карону.

**1805.** У сям'і шаўца з'явіўся на свет вялікі дацкі казачнік Ханс Крысціян Андэрсен. Беднасць перашкодзіла яму ў юнацтве пачаць кар'еру прафесійнага акцёра. Цалкам магчыма, што ў казцы «Брыдкае качаня» Андэрсен распавёў пра ўласнае дзяцінства.

**1859.** У цягніках упершыню з'явіліся прыбіральні: да гэтага дадумаліся амерыканцы.

**1925.** У Дзвінску (цяпер Даўгаўпілс) пачаўся судовы працэс над 8-мю беларускімі настаўнікамі, у тым ліку Кастусём Езавітавым і Паўлінай Мядзёлкай, якіх латвійскія ўлады абвінавацілі ў намерах далучыць населеную беларусамі частку Латгаліі да БССР. Ужо 4 красавіка ўсе яны былі апраўданыя, але звольненыя з працы, а некаторыя — высланыя з краіны.

**1953.** Выйшаў першы нумар часопіса «Маладосць».

**1986.** Каліфарніец Роберт Макдональд быўшы за два тыдні паспяхова змагаўся са сном. Увесь гэты час — 453 гадзіны 40 хвілінаў ён праседзеў у крэсле-качалцы.

**1992.** Экспедыцыя канадскіх і амерыканскіх біёлагаў знайшла ў штаце Мічыган найвялікшы ў свеце жывы арганізм — сетку тонкіх нітак грыба *Armillaria bulbosa*, што расла 1.500 гадоў і раскінулася на плошчы 15 гектараў. Вага грыба дасягае 100 тон.

*Падрыхтаваў* **Юрась БАРЫСЕВІЧ**

## Міліцыя не спраўляецца. І не справіцца

380 бутэлек фальсіфікаванай гарэлкі і велізарную колькасць мяса-малочных прадуктаў і кандытарскіх вырабаў сканфіскавала міліцыя ў аднаго жыхара Бабруйска, які накіроўваўся ў Расію.

Штодзённа міліцыя канфіскуе на мяжы Магілёўшчыны з Расіяй харчавання на сотні мільёнаў рублёў, але гэта — толькі мізэрная частка таго, што вывозіцца ў суседнюю дзяржаву. У прыгранічных раёнах Магілёўшчыны многія прадукты проста не даходзяць да прылаўка, а адразу палявымі дарогамі трапляюць у Расію. Спыніць гэты працэс міліцыя пакуль не ў стане: дзяржава сілавымі сродкамі прымушае вытворцаў трымаць заніжаныя цэны, а гэта стварае вельмі выгадныя ўмовы для такога бізнесу.

*БелаПАН*




*На здымку: кантрольна-прапускны пункт на беларуска-расійскай мяжы ў Магілёўскай вобласці. Але асноўныя шляхі чаўнакоў — па лясных і палявых дарогах.*

## Дзіцячы турнір завяршыўся перамогай прэзідэнта

**Фінальны хакейны турнір «Залатая шайба» (той, які на прызы першага прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі), а ў ім бралі ўдзел дзіцячыя, да 14 гадоў, каманды Мінска і абласцей, завяршыўся ў Мінскім Палацы спорту.**

У рашаючым паядынку хлопчыкі з вёскі Зубава Аршанскага раёна перамаглі з лікам 6:3 сваіх равеснікаў з Барысава. У чэмпіёнаў вызначыўся Андрэй Калачоў, які закінуў тры шайбы.

Вось тут і выйшаў на лёд хакеіст нумар адзін Аляксандр Лукашэнка. У поўнай хакейнай амуніцыі, з шлемам на галаве — так бы мовіць, у шчытках і касцы. Ён зачытаў віншаванне ўдзельнікам турніру, з якога ўсе даведаліся, што наступнай масава-прапагандысцкай акцыяй у сферы дзіцячага спорту будуць спаборніцтвы футбалістаў «Скураны мяч». А юных хакеістаў прэзідэнт узнагародзіў па-царску: усе ўдзельнікі ўзнагароджаныя гадзіннікі з сімволікай турніру, бронзавыя прызёры прэміяваныя пуцёўкамі ў лагер «Зубраня» на Нарачы, кожны срэбны прызёр атрымаў музычны цэнтр, а ўсе чэмпіёны — па тэлевізары. Аб такіх прызах марацьі дарослыя майстры.

Можна парадавацца, што ў вёсцы Зубава стане на два дзесяткі тэлевізараў больш, а ў Барысаве дзеці часцей будуць слухаць музыку. Але кепска, што высакародная справа падтрымкі дзіцячага спорту бессаромна ператвараецца ў палітычную акцыю папулярызацыі прэзідэнта і дэманстрацыі яго ганай шчодрасці. Каб не дай Бог лукашэнкаўскае дабро не засталося незаўважаным, спартыўныя журналісты Беларускага тэлебачання, мімаходам паведаміўшы пра падзеі ў свеце вялікага спорту, падрабязна асвятлялі ход турніру, скрупулёзна пералічвалі ўсе нюансы знаходжання дзяцей у Мінску. Дзеці, зразумела, тут ні пры чым — яны, як умелі, гулялі ў хакей і адказвалі на пытанні журналістаў. Між тым, настаўнікі, якія старанна прыводзілі сваіх вучняў у якасці гледачоў на прэцыгу турніру на трыбуны Палаца спорта, не ў стане на сваю заработную плату купіць тэлевізар ні за тры месяцы, ні за шэсць.

І яшчэ: спартыўная база большасці агульнаадукацыйных школаў за апошнія некалькі гадоў прыйшла ў заняпад з-за адсутнасці сродкаў. Урокі фізкультуры з прычыны перагружанасці спартзалаў праводзяцца ў калідорах і сутарэннях.

Пасля ўручэння ўзнагародаў пачаўся другі акт хакейнага спектаклі, — паядынак каманды прэзідэнта са зборнай ветэранаў беларускага хакею. Лукашэнка, каб партнёры не забываліся на сваё месца ў страі, выйшаў на лёд у майцы з нумарам адзін, хаця ва ўсім свеце «адзінку» носяць толькі варатары. Аляксандр Рыгоравіч гуляў у цэнтры нападзення (што вельмі лагічна: ён прывык быць у цэнтры ўсіх зайсёдаў). У тавярышы па тройцы ён выбраў Анатоля Варывончыка і Міхаіла Захарава — самых свежых з ветэранаў. Як і трэба было чакаць, менавіта Лукашэнка стаў самым выніковым іграком сустрэчы, закінуўшы 4 шайбы і зрабіўшы 3 галявыя перадачы. Можа, яму лепш перакваліфікавацца ў хакеісты?

**Міхаіл ПАТАПОВІЧ**

*«Формула-1»*

## Вялікі сакрэт «Макларэн-Мерседэс»

Другі этап чэмпіянату свету па аўтагонках у класе машын «Формула-1», які прайшоў у бразільскім Інтэрлагасе, быў вельмі падобны на першы. Ізноў двайную перамогу атрымалі гоншчыкі каманды «Макларэн-Мерседэс» Міка Хакінен (Фінляндыя) і Дэвід Култхард (Шатландыя). Двухразовы чэмпіён свету Міхаэль Шумахер, не закончыўшы першы этап у Сіднеі, на гэты раз прыехаў да фінішу трэцім, але прайграў Хакінену цэлую хвіліну, гэта амаль 4 кіламетры дыстанцыі! Чэмпіён свету-97 Жак Вільнёў (Канада) фінішаваў толькі сёмым, чэмпіён свету-96 Дэйман Хіл (Англія) — дзесятым.

Усе гадаюць: якія незвычайныя метамарфозы дазволілі камандзе «Макларэн-Мерседэс» так высока ўзнесціся над канкурэнтамі? Адказу пакуль няма.

А сітуацыя пасля двух этапаў такая:

**1.** Хакінен — 20 ачкоў. **2.** Култхард — 12. **3.** Х.-Х.Фрэнтцэн («Уільямс-Мекахром») — 6. **4.** М.Шумахер («Ферары») — 4. **5-6.** А.Вюрц («Бенетон») і Э.Ірвін («Ферары») — па 3. **7.** Ж.Вільнёў («Уільямс-Мекахром») — 2. **8—9.** Д.Херберт («Заўбер») і Д.Фісікела («Бенетон») — па 1.

У Кубку канструктараў першынстве «Макларэн» — 32 ачкі, далей ідуць «Уільямс» — 8 і «Ферары» — 7.

**Сямён ПЛОЦ**



## Тры падпольныя арсеналы

**Адразу тры склады зброі знойдзеныя ў Гомельскай вобласці.**

У двух выпадках — у гарадзе Буда-Кашалёва і вёсцы Слабада Добрушскага раёна — ва ўласных дамах пенсіянераў былі знойдзеныя амаль 400 патронаў, самаробныя наразны ствол і незарэгістраваная паляўнічая стрэльба. У Мазыры супрацоўнікі ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю падчас вобыску кватэры аднаго з членаў затрыманай злачыннай групоўкі канфіскавалі 21 патрон да пісталета Макарава, 21 патрон калібру 5,45 мм, абрэз паляўнічай зброі, 2 газавыя пісталеты, самаробнае прыстасаванне для стральбы малакалібернымі патронамі. Па ўсіх трох фактах узбуджаныя крымінальныя справы.

*БелаПАН*

## Не кватэра, а склад зброі

**У жыхара Магілёва, рабочага аднаго мясцовага завода, міліцыя знайшла сапраўдны зброевы склад.**

2 пісталеты «Парабелум», 2 самаробныя рэвальверы, паляўнічы абрэз, вінтоўка Мосіна, 250 рознакаліберных патронаў — усё гэта дзядзька трымаў у сябе ў кватэры. Узбуджана крымінальная справа.

**Іван ЗАСАДА**

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1170 Нумар падпісаны ў друк 30.03.98 (15:00) Наклад — 15.330